

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№5 (169) САКАВІК 2014 ГОД


МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

## ДЭМАКРАТЫЧНЫ КАНДЫДАТ ТРАПІЎ У ДЭПУТАТЫ

**Паводле папярэдніх дадзеных, Аляксандр Шчамлёў перамог на мясцовых выбарах 23 сакавіка і быў абраны дэпутатам Дабейскага сельсавета. Упершыню за ўсю гісторыю Шумілінскага раёна дэмакратычны кандыдат стаў дэпутатам.**

Па папярэдніх дадзеных мясцовага выбаркаму, за Шчамлёва аддалі галасы 27 выбаршчыкаў, за праўладнага кандыдата, намесніцу дырэктара Амбросавіцкай сярэдняй школы Ірыну Матэленак прагаласавалі 13 чалавек, "супраць усіх" прагаласавалі чацвёра. Усяго па Амбрасавіцкай акрузе № 7 налічвалася 47 выбаршчыкаў.

"Падлік галасоў прайшоў больш-менш адпаведна дэмакратычным стандартам, - распавёў Аляксандр Шчамлёў. – Расклалі біюлетэні па акругах, расставілі сталы з таблічкамі з імёнамі кандыдатаў, агучвалі вынікі ўголас, на сталы раскладвалі бюлетэні". Па яго словах, грубых парушэнняў пад час падліку галасоў не было, калі не ўлічваць той факт, што наглядальнікі сядзелі на дастатковай адлегласці ад сталоў членаў камісіі і не маглі бачыць бюлетэні. Праўда, агучаныя лічбы адпавядалі рэальнай сітуацыі. Таму пасля завяршэння падліку некаторыя прысутныя нават яго павіншавалі.

Спадару Шчамлёву 56 гадоў, пражывае ў аграгарадку Амбросавічы. Дваццаць з іх адпрацаваў вэтэрынарным урачом у Шумілінскім раёне, а пасьля – сышоў у палітыку. "З 1994 году ўдзельнічаю ў кожнай выбарчай кампаніі: і даверанай асобай быў, і назіральнікам, і кандыдатам". Цяпер даглядае 82-гадовую маці – інвалідам першай групы. "Я афармлены „па доглядзе", мая працоўная кніжка знаходзіцца ў райвыканкаме . І ведаеце, колькі мне дзяржава за гэта плоціць? – пытаецца Шчамлёў. – Адзін мільён рублёў! А гэта пякельная праца. Па восем-дзесяць гадзін не адысці ад чалавека".

Шчамлёў трапіў у дэпутаты з другой спробы. Палітык распавёў, што зараз у яго - узнёслы настрой. «Была дылема - удзельнічаць ці не. Бо думаў, ці магчыма перамагчы: Вырашыў прыняць удзел у якасці эксперыменту», - падзяліўся Шчамлёў.

"За мяне ўся вуліца падпісалася, 27 чалавек, — кажа Аляксандар Шчамлёў, – і 27 чалавек на выбарах за мяне прагаласавала".

На жаль, вёска співаецца ў нас, людзі пасіўныя, зняверыліся у сябе, у сярэднім зарабляюць не больш за два мільёны на цяжкай працы. У многіх інтарэсаў няма ніякіх, апроч гарэлкі, асабліва ў мужчын, — распавядае Шчамлёў. — І мне было цікава, што нават з гэтымі людзьмі можна працаваць, можна іх пераконваць».

"Праблема п'янства яшчэ якая вострая, – кажа ён. – Вось нядаўна жорсткае забойства здарылася на тэрыторыі сельсавету. У п'яным чадзе малады мужчына горла бабульцы перарэзаў. У самой Дабеі яшчэ адно забойства: 36-гадовы скотнік зарэзаў іншага скотніка – гэта ўсё з-за п'янства.

Некалькі гадоў таму, дзякуючы ініцыятыве групе актыўных грамадзян, двухпавярховыя дамы ў вёсцы абсталявалі за бюджэтныя сродкі ацяпляльнымі газавымі катламі. Хоць каштавалі яны тады па тысячы даляраў. Цяпер іншая праблема – трэба іх рамантаваць, а запчасткі каштуюць дорага.

Да прыкладу, адна помпа вадзяная мільён каштуе. Пенсіянэр як сто даляраў заплоціць – а есьці за што? А калі зімой стане помпа?!"

А ў ЖКГ кажуць, што павінны самі рамантаваць, але незразумела, чаму, калі катлы належаць ім - гэта камунальная ўласнасць. Хай дадуць афіцыйную паперу», - заключыў кандыдат ад Руху "За Свабоду»

Аднак у сваім дэпутацкім статусе Шчамлёў яшчэ не ўпэўнены. «Я змог даказаць, што, калі папрацаваць з канкрэтнымі людзьмі, з якімі жывеш побач, то можна перамагчы любога кандыдата», - падкрэсліў Аляксандр Шчамлёў. Па яго словах, у людзей "павінна быць альтэрнатыва, каб яны ведалі, што можна нешта рабіць і ў такіх умовах".

"Упершыню за ўсю гісторыю Шумілінскага раёна дэмакратычны кандыдат стаў дэпутатам", - дадаў ён, патлумачыўшы, што гэта, праўда, пакуль не канчатковыя вынікі і ад уладаў, нажаль, "можна ўсяго чакаць".

"Калі кіраўніцтва раёна не перадумае, то так, буду дэпутатам. А то напішуць, што за гэтую настаўніцу 27, а за мяне 13, і хто ім забароніць?"

**Алесь Шумскі**

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

ГАНДАЛЬ

## АДЧЫНІЎСЯ МАГАЗІН АЎТАЗАПЧАСТАК

**Новы гандлёвы аб'ект распачаў сваю работу ў Шуміліне па вуліцы Сіпко.**

Многія шумілінцы сёння не ўяўляюць жыццё без аўтамабіля. Для большасці з нас ён даўно ператварыўся з прадмета раскошы ў неабходны ў паўсядзённым жыцці сродак для перамяшчэння. Ні падвышэнне цэн на паліва, ні дрэнны стан дарог не могуць прымусіць аўтааматараў перасесці з камфортнага салона сваёй машыны ў грамадскі транспарт.

Колькасць аўтамабілістаў і машын у Беларусі за апошнія гады значна вырасла. Не выключэнне тут і Шуміліншчына. Аднак з часам кожны легкавік, нават самая надзейнай і праверанай іншамарка, мае патрэбу ў тэхнічным абслугоўванні і рамонце, а то і наогул ламаецца. Каб забяспечыць своечасовы догляд аўтамабіля, неабходны запчасткі, многія з якіх цяжка было знайсці ў райцэнтры.

Таму з адкрыццём у Шуміліне новага магазіна "Аўтазапчасткі" па вуліцы Сіпко, д. 88 сітуацыя значна змянілася да лепшага. Тут на днях адкрыла сваю краму таварыства з абмежаванай адказнасцю "АўтаБайМотарс". Сузаснавальнікамі таварыства сталі прадпрымальнікі Дзмітрый Каўгуноў, Уладзімір Масько і Уладзімір Карнілаў.

Як заведзена даўно, на ўрачыстым адкрыцці новай гандлёвай кропкі прысутнічалі старшыня райвыканкама Уладзімір Куранны, намеснікі старшыні райвыканкама В. В. Доктараў і А. П. Быкаў, іншыя службовыя асобы.

Падчас адкрыцця новага магазіна кіраўнік раёна ў сваёй прамове адзначыў, што такі магазін безумоўна, неабходны насельніцтву. Уладзімір Пятровіч спадзяецца, што таварыства "АўтаБайМотарс" будзе павялічваць спектр паслуг аўтааматарам.

У сваю чаргу праваслаўны сватар – айцец Фёдар асвяціў новы магазін для шумілінскіх пакупнікоў.

**Сяржук Горкі**

НУ І НУ!...

## АПАЗЫЦЫЯНЕР ПАБЫЎ ДЭПУТАТАМ ТОЛЬКІ 5 ДЗЁН

**28 сакавіка сябар руху «За Свабоду» Аляксандар Шчамлёў убачыў новы пратакол выбарчай камісіі. Згодна з пададзенымі ў ім лічбамі, ён прайграў выбары — у яго на адзін голас меней, чым у ягонай суперніцы, завуча Амбросавіцкай сярэдняй школы.**

«Усё памятаю. Апроч таго, у назіральнікаў запісана ў рабочых сшытках. Атрымалі бюлетэні 47 чалавек, 18 прагаласавалі датэрмінова і 29 — у дзень выбараў. З 18 "датэрміновых" галасоў у мяне 10, а ў яе — 8. Ніхто дома негаласаваў. Паводле агульных падлікаў 23 сакавіка, 4 чалавекі прагаласавалі супраць усіх, 27 — за мяне, 13 — за маю суперніцу, несапраўдных бюлетэняў было 3. Тое, што ўбачыў у новым пратаколе, мяне ўразіла! Атрымалі бюлетэні, аказваецца, ужо не 47, а 49 выбарцаў. Зь іх за мяне прагаласавалі, высьветлілася, толькі 12 чалавек, за завуча — 13 чалавек. Ужо 5 чалавек, напісана, прагаласавала супраць усіх. А несапраўднымі прызнана ажно 19 бюлетэняў!»

Паводле Аляксандра Шчамлёва, падлікі ў дзень выбараў былі дакладныя — дый як там можна было памыліцца, калі выбарцаў паўсотні. Але потым, казалі ўвёсцы, чальцоў камісіі выклікалі да раённага начальства, і вось цяпер, праз 5 дзён пасьля выбараў, камісія склала іншы пратакол.

«Асобная гаворка пра тое, які ўзровень даверу ў людзей да дэпутаткі, калі за яе з пяці ці шасьці дзясяткаў мясцовых прагаласавалі толькі 13 чалавек! Але дужа шмат пытаньняў пра падлікі і зьмену дадзеных у пратаколе. Пакуль яшчэ не рашыў, бо дужа ўражаны тым што адбылося, але, хутчэй за ўсё, буду скардзіцца на дзеяньні камісіі», — кажа Аляксандр Шчамлёў.

**Радыё Свабода**

НАВІНЫ КУЛЬТУРЫ

## ЮНАЯ СПЯВАЧКА З ШУМІЛІНА

**Кацярына Філіпенка, пераможца рэспубліканскага конкурсу юных вакалістаў "Звонкая раніца", прыняла ўдзел у двухгадзінным канцэрце, які адбыўся ў Магілёўскім цэнтры дзяцей і моладзі.**

Перадусім Каця стала пераможцай рэспубліканскага конкурсу юных вакалістаў "Звонкая раніца". Свае песні дзяўчынка падрыхтавала з дапамогай выкладчыцы харавых дысцыплін ДШМ Алены Анатольеўны Фёдаравай. А паездка ў Магілёў стала магчымай дзякуючы спонсарскай падтрымцы дырэктара Шумілінскай дзіцячай школы мастацтваў Г. Г. Мацвяйчук.

Канцэртнае мерапрымства "Мы – разам" ладзіла дзяржаўнае выданне "Настаўніцкая газета". Выступленне юнай вакалісткі на вялікай сцэне сапраўды стала першым крокам на шляху ў чароўны свет музыкі. Прынамсі, настаўнікі і бацькі перажывалі- ці не разгубіцца яна, ці хопіць ёй упэўненасці перад такой колькасцю гледачоў? Бадай, што самай хвалюючай падзеяй для Кацярыны Філіпенка стала выступленне на адной сцэне з вядомай зоркай беларускай эстрады Інай Афанасьевай.

І гэта яшчэ не усё. Як стала вядома, Іна Афанасьева пры падтрымцы "Настаўніцкай газеты" рыхтуе новую праграму "Шчасце маё". І нашы маленькія зорачкі, выхаванцы "Звонкай раніцы" будуць спяваць песні з рэпертуару Іны Уладзіміраўны.

**Алесь Прыбярэжны**

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

# ДАТЭРМІНОВАЕ ГАЛАСАВАННЕ

**На Шуміліншчыне, як і па ўсёй краіне праходзіць датэрміновае галасаванне на выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў. Толькі за першыя два дні ў галасаванні прынялі удзел 10,2% выбаршчыкаў раёна.**

Не сакрэт, што датэрміновае галасаванне цяперашнія ўлады скарыстоўваюць для таго, каб як мага больш забяспечыць яўку выбаршчыкаў на ўчасткі для галасавання. Апроч таго, датэрміновае галасаванне небяспечнае тым, што яно не кантралюецца грамадскасцю. Вельмі часта ва ўчастковых камісіях падчас апячатвання скрыняў старшыня камісіі не хоча каб на пячатцы былі подпісы усіх жадаючых членаў, а толькі тых, каго вызначыць сам старшыня камісіі. Апроч таго самі скрыні для галасавання знаходзяцца ў распараджэнні супрацоўнікаў.

З 18 па 22 сакавіка кожны выбаршчык мае магчымасць прагаласаваць на выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў датэрмінова. Дарэчы, у нашым раёне за першыя два дні зрабілі свой выбар 10,2% выбаршчыкаў.

Па Беларусі паводле звестак Цэнтрвыбаркама, за чатыры дні датэрміновага галасавання на выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў прагаласавалі ўжо 1 млн 737 тыс. 16 чалавек, або 24,92% ад агульнай колькасці беларускіх выбаршчыкаў. У першы дзень галасавання на выбарчыя ўчасткі прыйшлі пераважна студэнты і пенсіянеры.

.Найбольш актыўна галасуюць у Гомельскай (26,02%) і Віцебскай (25,95%) абласцях, а таксама ў Мінску (25,88%). У Магілёўскай вобласці датэрмінова прагаласавалі 25,43% выбаршчыкаў, у Мінскай — 24,38%, у Брэсцкай — 23,57%. Найменшаяяўкавыбаршчыкаў назіраецца ў Гродзенскай вобласці — 22,63%.

Варта зазначыць, што з кожным днём галасавання яўка выбаршчыкаў была большай, чым у папярэдні дзень. Так, у першы дзень датэрмінова прагаласавалі 3,82% выбаршчыкаў, другі — 5,99%, трэці — 6,99%, чацвёрты — 8,12%.

У Цэнтральнай выбарчай камісіі адзначаюць, што такая форма галасавання абсалютна ўпісваецца ў міжнародныя выбарчыя стандарты. Але прымушаць да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні нельга, - кажа старшыня Цэнтрвыбаркаму Лідзія Ярмошына.

Звычайна а 10-й гадзіне раніцы у прысутнасці назіральнікаў, правамоцным складам камісіі былі апячатаныя скрыні да датэрміновага галасавання грамадзянаў. Два члены камісіі на працягу дня будуць працаваць, а ўвечары будзе вывешвацца пратакол аб тым колькі грамадзян прыйшлі і прагаласавалі. Гэты пратакол будзе вісець увесь наступны дзень да моманту складання новага. Такім чынам і назіральнікі і СМІ змогуць пракантраляваць ды вызначыць, колькі чалавек прагаласавала.

Між тым, прадстаўнікі апазіцыі неаднаразова заяўлялі пра неабходнасць адмены ці абмежавання датэрміновага галасавання. Паводле іх звестак, менавіта ў час датэрміновага галасавання магчымыя масавыя фальсіфікацыі — напрыклад укідаванне ці замена бюлетэняў у начны час, калі назіральнікі не маюць магчымасці сачыць за захаванасцю скрыняў для галасавання. Апроч таго, паводле звестак незалежных назіральнікаў і праваабаронцаў, падчас датэрміновага галасавання ўлады актыўна задзейнічаюць адміністрацыйны рэсурс, каб павялічыцьяўкувыбаршчыкаў за кошт студэнтаў, ваеннаслужачых і работнікаў дзяржаўных устаноў.

**Я Вайтовіч**

ЭКАЛАГІЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

# ДЫПЛОМ ЗА ТРЭЦЦЯЕ МЕСЦА

**Выхаванка Светласельскага садка Гур'ева Насця атрымала трэцяе месца на рэспубліканскім конкурсе за лепшы малюнак.**

Віцебскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і ахвы навакольнага асяроддзя падвёў вынікі другога этапа рэспубліканскага конкурсу на лепшы дзіцячы малюнак на экалагічную тэматыку.

Наконкурсбылопрадстаўлена 366 работ выха-ванцаў установ дашкольнай адукацыі, навучэнцаў установ агульнай сярэдняй адукацыі і дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі гарадоў і раёнаў Віцебскай вобласці, выкананыя ў рознай тэхніцы. Кожны малюнак дзіцяці раскрывае тэму беражлівых адносін да прыроды, захавання біялагічнай і ландшафтнай разнастайнасці, ахвовы навакольнага асяроддзя і прыродных рэсурсаў.

Па выніках другога этапу конкурсу вызначаны лепшыя працы.

У узроставай групе ад 3 да 5 гадоў:

першае месца - Хмыльніна Варвара, 5 гадоў, "Абаронім прыроду разам», гурток «Майстэрня цудаў», кіраўнік Хмыльніна С. В., дзяржаўная ўстанова дадатковага адукацыі «Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі Кастрычніцкага раёна г.Віцебска»;

другое месца - Каралькова Аліна, 5 гадоў, «Пінгвінчык», аб'яднанне «Клякса», педагог Станкевіч Ю.С., дзяржаўная ўстанова дадатковага адукацыі «Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі Кастрычніцкага раёна г.Віцебска»;

трэцяе месца - Гур'ева Насця, 4 г. 7 м., «Будучыня прыроды ў нашых руках» (аплікацыя, гуаш), дзяржаўная ўстанова адукацыі «Светласельскія яслі - сад Шумілінскага раёна».

**Сяржук Горкі**

ГАЛАСАВАННЕ

# ТОЛЬКІ ЧАСТКА СКРЫНЬ ПРАЗРЫСТЫЯ

**На выбарчых участках Віцебскай вобласці ўстаноўлена 3998 скрынь для галасавання, паведамілі ў Віцебскай абласной выбарчай камісіі. З іх 1493 скрыні, або больш за 37%, з'яўляюцца празрыстымі.**

Датэрміновае галасаванне ў рэгіёне арганізавана на 824 выбарчых участках. Усяго 23 сакавіка будуць працаваць 868 выбарчых участкаў, у тым ліку 2 з іх размешчаны ў воінскіх частках і 46 знаходзяцца ў санаторыях, прафілакторыях, дамах адпачынку, бальніцах і іншых установах ахвовы здароўя, якія аказваюць медыцынскую дапамогу ў стацыянарных умовах. На гэты час усе яны абсталяваны ў адпаведнасці з патрабаваннямі заканадаўства і гатовыя да правядзення палітычнай кампаніі.

У Віцебскай вобласці на 3218 дэпутацкіх мандатаў прэтэндуюць 3446 кандыдатаў. У іх ліку 4,7 % складаюць грамадзяне да 30 гадоў ( 161), дэпутаты дзеючага склікання - 51,8 % ( 1777 ), жанчын - 47 % (1 621) і 3 грамадзяніна Расіі. Ад палітычных партый зарэгістравана 108 кандыдатаў у дэпутаты Саветаў усіх узроўняў. Пры гэтым найбольшая колькасць вылучэнцаў зарэгістравана ад Беларускай партыі левых "Справядлівы свет", Ліберальна -дэмакратычнай партыі, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Камуністычнай партыі Беларусі.

**Народныя навіны Віцебска**

АГРАТУРЫЗМ

# ДОМІК ПАЛЯЎНІЧАГА ЗАПРАШАЕ

**Ёсць на ўскрайку Шумілінскага раёна паляўнічы комплекс "Домік паляўнічага". Гэта такі аб'ект, дзе адначасова можна адпачыць і аздаравіцца.**

На ўскрайку Шумілінскага раёна, у царстве бязмежных лясоў, дзе свежае паветра па-сапраўднаму чыстае і таму карыснае, дзе на працягу сутак не змаўкаюць галасы птушак дзіўнай прыгажосці, дзе магія некранутасці прыроды вабіць і радуе, размясціўся паляўнічы комплекс "Домік паляўнічага". ДЛГУ "Шумілінскі лясгас" (заснавальнік і гаспадар комплексу) меў на мэце стварыць такі аб'ект, дзе адначасова можна было б адпачыць і аздаравіцца. Аздараўленню духоўнаму садзейнічае аддаленасць комплексу ад усіх сучасных псіхалагічных раздражняльнікаў; а стасункі з невычэрпнай энергіяй некранутай прыроды падмацоўць фізічнае здароўе.

Комплекс "Домік паляўнічага" – гэта камфартабельны галоўны корпус, які ва ўсім можа саперніччаць з гарадскімі гасцініцамі. Домік здольны размясціць на начлег з усімі зручнасцямі да 11 чалавек. Побач – руская лазенька з пяшчотнай сухой парай, парылка здольна аднначасова прыняць да шасці чалавек. Тут жа на агароджанай кругласутачна ахоўваемай тэрыторыі размешчана альтанка і пляцоўка з мангалам.

За сто метраў ад доміка паляўнічага раскінулася найпрыгажэйшае возера Ценніца, вада якога, па паданнях старажылаў, валодае гаючай сілай.

Работнікі комплексу "Домік паляўнічага" запрашаюць усіх жадаючых правесці свабодны час з карысцю для здароўя. Тут можна правесці сямейныя ўрачыстасці, карпаратывы, юбілейныя мерапрыемствы.

**Паводле shumilino.by**

НАША ЖЫЦЦЁ

# ПЬЯНСТВУ – БОЙ!

**Не выключана, што на Віцебшчыне неўзабаве ўвядуць новыя абмежаванні на продаж спіртнога - на час хрысціянскіх пастоў. Такую прапанову абласной пракуратуры агучыў намеснік пракурора вобласці Уладзімір Гук падчас навукова-практычнай канферэнцыі «Сцвярджэнне цвярозасці ў сучасным свеце».**

- Гэта толькі адна з шэрагу мер па прафілактыцы п'янства, якія прапануе пракуратура, - патлумачыў Уладзімір Гук "Камсамольцы" . - Так, мы лічым, што мэтазгодна запрашаць святароў традыцыйных канфесій на пасяджэнні саветаў грамадскіх пунктаў ахвовы правапарадку. У апошні час аўтарытэт святароў і цэркваў ўзрастае, яны маглі б ўздзейнічаць на тых, хто схільны да правапарушэнняў або злоўжывання спіртным сумесна з праваахоўнымі органамі.

Мяркуецца, што на час пастоў будзе абмежаваны час продажу спіртнога і зрэзаны асартымент алкагольных напояў, у асноўным за кошт танных пладова - ягадных вінаў. Пакуль што гэта прапанова ў стадыі распрацоўкі, прадумваецца, якім чынам можна рэалізаваць дадзеную ідэю. Пасля гэтага ўжо ініцыятыва будзе прадстаўлена мясцовым уладам. У рэгіёнах пракурорскія работнікі і святары ў бліжэйшы час павінны выпрацаваць канкрэтны алгарытм дзеянняў па эфектыўнаму ўзаемадзеянню праваахоўнага блока і царквы, накіраванага на прафілактыку і папярэджанне супрацьпраўных паводзін грамадзян.

Дарэчы, Віцебская вобласць пакуль што адзіная ў краіне, дзе на ўсёй тэрыторыі рэгіёну ў крамах забаронена прадаваць спіртное пасля 21.00 і няма ні аднаго начной крамы, дзе можна было б купіць алкаголь, удакладніў Уладзімір Гук. Розныя антыалкагольныя ініцыятывы практыкуюць і ў раёнах Віцебшчыны - ад якія сталі ўжо звычайнымі дзён цвярозасці да забароны на продаж спіртнога ў дзень зарплаты. У некаторых раёнах у крамах вывешваюць спісы алкаголікаў, для якіх уведзены персанальныя абмежаванні на продаж спіртнога.

**www.kp.by**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# РАСІЯ КІДАЕ ВЫКЛІК СУСВЕТНАМУ ПАРАДКУ

**Журналіст-аналітык "Радыё Свабода" Юры Дракахруст разважае пра Крымскія падзеі.**

Прамова Уладзімера Пуціна і рашэньне Фэдэральнага сходу Расеі пра далучэньне Крыма да РФ — выклік сусьветнаму сьветапарадку.

Прэзыдэнт Расеі ў сваёй прамове спасылаўся на досьвед Косава. Але Косава не было далучанае ні да воднай заходняй краіны, яму забаранілі далучацца нават да Альбаніі. Крым далучаецца да Расеі ў якасьці яе рэгіёна. Нагадаю, гэта тое, што 12 гадоў таму Пуцін прапаноўваў Беларусі.

Да таго ж даволі злавесна прагучалі словы Пуціна наконт таго, што паўднёвыя і ўсходнія рэгіёны Ўкраіны былі незаконна далучаныя да Ўкраіны бальшавікамі. Ён, праўда, агаварыўся, што Расея, акрамя Крыму, больш ні на што не прэтэндуе ва Ўкраіне.

Параўноўваць цяперашнюю палітыку Расеі з палітыкай Гітлера ў 30 гадах — можа і кепскі тон, ёсьць істотныя адрозьненьні. Але пасьля анэксіі Судэтаў нацысцкі ўрад заяўляў, што больш ні на што не прэтэндуе. Празь некалькі месяцаў пасьля гэтых заяваў вэрмахт заняў усю тэрыторыю Чэхіі, далучыўшы яе да Трэцяга Рэйху.

Абхазію і Паўднёвую Асэтыю можна было палічыць ізаляваным эпізодам. Зараз вымалёўваецца пэўная тэндэнцыя. Папросту кажучы, хто наступны? І што можа стрымаць гэты марш Расеі?

Пакуль Захад увёў толькі пэрсанальныя санкцыі адносна пары дзясяткаў расейскіх палітыкаў і урадоўцаў. Гэтыя санкцыі выглядаюць ня надта сур'ёзнымі, асабліва ў сьвятле санкцый, пад якімі знаходзіцца ўжо 3 гады афіцыйны Менск. Лукашэнка сілай разагнаў маніфэстацыю, пасадзіў некалькі дзесяткаў чалавек. У яго пад санкцыямі каля 200 чалавек, уключна зь ім самім. Расея анэксавала ладны кавалак тэрыторыі іншай дзяржавы, на якім жыве 2 мільёны чалавек. Пад санкцыі патрапіў ажно (!) 21 чыноўнік.

Аднак неабавязкова, што Захад па змаўчаньні праглыне анэксію Крыму. Ужо шмат хто адзначыў, што палітыка Пуціна — гэта вяртаньне ў XIX стагодзьдзе. Можа, гэта з гонарам прызнаў бы і сам прэзыдэнт Расеі, маўляў, прэч сьвет міжнароднага права, у якім вышэйшы судзьдзя — Злучаныя Штаты. Але варта прыгадаць, што XIX стагодзьдзе было векам шматлікіх войнаў. Так, тады ня надта клапаціліся пра міжнароднае права і ўнівэрсальныя прынцыпы. Але вельмі клапаціліся пра бясьпеку, пра захаваньне сілавога балянсу. Ёсьць пэўны сымбалізм у тым, што Пуцін гаварыў сваю прамову ў дзень, калі ў 1856 годзе скончылася Крымская вайна, якую Расея прайграла.

Адказ можа быць не прамым, але істотным. Калі Захад палічыць Расею небясьпечным ворагам, можа чакаць паступовага скарачэньня гандлю, у тым ліку і імпарту расейскіх энэрганосьбітаў, закрыцьцё доступу Расеі да сучасных тэхналёгіяў, прасоўваньне інфраструктуры НАТА бліжэй да межаў Расеі, у тым ліку і ва Ўкраіну, росту (нарэшце) ваенных выдаткаў у краінах Эўразьвязу, якія апошнія гадоў 10 іх увесь час скарачалі.

І матыў — не парушэньне міжнароднага права, матыў — пагроза, якую ўяўляе сабой Расея, якая дазваляе сабе анэксаваць тэрыторыі суседзяў і канчатковыя мэты якой незразумелыя.

Пра гэта, дарэчы, ў разгар крызісу вакол Крыму гаварыў начальнік камітэту начальнікаў штабоў ЗША Дэмпсі, паводле яго «калі дазволіць Расеі ўрывацца ў сувэрэнныя дзяржавы, матывуючы гэта абаронай этнічных рускіх, пад пагрозай дэстабілізацыі апынецца ўся Ўсходняя Эўропа і Бальканы».

Вялікабрытанія і Францыя ў 1853 годзе абвясьцілі вайну Расеі не таму, што яна парушыла міжнароднае права, а таму, што ўбачылі ў яе дзеяньнях пагрозу бясьпецы ў Эўропе і Азіі. Сардэчна запрашаем у XIX стагодзьдзе.

Доўгатэрміновыя наступствы гэтай геапалітычнай зьмены для Беларусі — тэма асобнай размовы. Але зараз перад афіцыйным Менскам наўпроставы выклік — прызнаньне альбо непрызнаньне пашырэньня межаў саюзьніка.

Хутчэй за ўсё, беларускія ўлады будуць усяляк пазьбягаць прамога адказу. Нагадаю, што месяц таму сам Лукашэнка, а тры тыдні таму ягоны міністар замежных справаў Уладзімер Макей казалі пра прыхільнасьць тэрытарыяльнай цэласнасьці Украіны. Цяпер гэтая цэласнасьць відавочным чынам парушаная.

Зь іншага боку, паколькі Расея ўключыла Крым у свой склад, то прызнаваць Расею ў Беларусі ня мае патрэбы, яна і так яе прызнае. Мяркую, што будуць вылучацца нейкія такія аргумэнты, каб не патрапіць пад яшчэ больш глыбокую ізаляцыю, а тое і санкцыі. Магчыма, для Беларусі ўзорам будзе рэакцыя Кітаю, які ўстрымаўся ў Радзе бясьпекі ААН пры галасаваньні рэзалюцыі аб незаконнасьці крымскага рэфэрэндуму. Тым ня менш, у Пуціна ў яго прамове знайшлося добрае слова на адрас Пэкіну.

Размовы пра выклікі сусьветнаму сьветапарадку суправаджаюць хіба ня кожны буйны міжнародны крызіс. Але ў дадзеным выпадку, асабліва калі глядзець на рэакцыю Заходу, зьмена правілаў, па якіх жыве сьвет, сапраўды адбываецца.

Параза СССР у «халоднай вайне» ня скончылася ніякім глябальным пагадненьнем, якое б вызначала месца і ролі пераможцаў і пераможаных, новы парадак усталяваўся па змаўчаньні. Менавіта яму Расея і кідае выклік. Якім будзе новы? Прыгадваецца, што ўсе мінулыя — Вэстфальскі мір, Венскі кангрэс 1814 году, Вэрсальскі мір, Ялта-Патсдам — усталёўваліся па выніках вялікіх войнаў.

**www.svaboda.org**

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

# «ПРАВА ВЫБАРУ» ПРА ВЫНІКІ МЯСЦОВЫХ ВЫБАРАЎ

**Вынікі выбараў дэпутатаў мясцовых саветаў – несапраўдныя, заявілі прадстаўнікі кампаніі «Права выбару» на выніковай прэс-канферэнцыі.**

«Выбарчыя камісія адвольна абыходзіліся з заканадаўствам, - распавёў першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч. - У выніку назіраліся фальсіфікацыі, высокі ўзровень ціску на назіральнікаў: іх выдалялі з участкаў, пазбаўлялі акрэдытацыі».

Па словах сустаршыні аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віталя Рымашэўскага, яны таксама адзначаюць, што змены заканадаўства, прынятыя восенню 2013 года, пагоршылі магчымасці апазіцыйных кандыдатаў для ўдзелу ў выбарах. «Высоўванне і рэгістрацыя кандыдаў праходзілі выключна ў няроўных умовах», - адзначыў ён для БелаПАН.

Назіральнікі, па ягоных словах зафіксавалі, «масавыя маніпуляцыі» з яўкай выбарцаў на большай частцы ўчасткаў, падлік галасоў праходзіў непразрыста, назіральнікі не маглі яго кантраляваць.

«У такіх умовах прадстаўнікі кампаніі "Права выбару" сцвярджаюць, што выбары дэпутатаў мясцовых саветаў не з'яўляюцца справядлівымі, сумленнымі і дэмакратычнымі, а іх вынікі не адлюстроўваюць сапраўднае волевыяўленне грамадзянаў. Мы не прызнаем вынікі гэтай выбарчай кампаніі», — заявіў Рымашэўскі.

«Асноўнай задачай нашай кампаніі было тое, каб на падставе канкрэтных фактаў патлумачыць выбарцам, чаму той кандыдат, за якога яны аддалі галасы, не стаў дэпутатам», - падвёў для сайту Рух.by Юрась Губарэвіч вынікі працы кампаніі «Права выбару» на мясцовых выбарах.

Па ягоных словах, яны збіраюцца даносіць гэтую інфармацыю да выбарцаў з дапамогай рознай інфармацыйнай прадукцыі – і гэта стане наступным этапам для кампаніі «Права выбару».

«Кампанія была досыць дынамічнай і была паспяховай», - заключыў Губарэвіч.




Учора, 23 сакавіка, пасля скančэння галасавання на выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў Беларусі, назіральнікі кампаніі «Права выбару» назіралі за працэдурай падліку галасоў на 320 выбарчых участках у 93 акругах. На 191 участку, па іх дадзеных, падлік галасоў не быў ні празрыстым, ні галосным (у тым ліку на 73 з 85 участкаў у Мінску). Пры гэтым, на 183 участках сябры камісіі не паведамлялі старшыні ўголас свае вынікі падліку (так, каб чулі астатнія сябры камісіі і назіральнікі).

Кампанія "Права выбару" праводзіцца на падставе пагаднення дэмакратычных сілаў, якое падпісалі арганізацыйны камітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», грамадзянская кампанія «Гавары праўду!», Партыя БНФ, Рух «За Свабоду», Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), Беларуская партыя «Зялёныя» і арганізацыйны камітэт па стварэнні Партыі свабоды і прагрэсу.

**http://рух.by**

УКРАІНСКА-РАСІЙСКІ КАНФЛІКТ

# ПУЦІН ПАТЭЛЕФАНАВАЎ АБАМУ

**Прэзыдэнт Расеі Уладзімір Пуцін патэлефанаваў 28 сакавіка прэзыдэнту ЗША Бараку Абаму для абмеркаваньня амэрыканскіх прапаноў па пераадоленьні крызісу ва Ўкраіне. Гэтыя прапановы перададзены дзяржсакратаром кіраўніку МЗС Расеі ў Гаазе і распрацаваны сумесна з украінскім бокам і з эўрапейскімі партнэрамі. Пра гэта паведамляе прэс-служба Белага дома.**

Падчас размовы прэзыдэнт Абама прапанаваў, каб Расея дала канкрэтны адказ у пісьмовым выглядзе на гэтыя прапановы. Прэзыдэнты дамовіліся, што кіраўнікі дыпляматычных ведамстваў дзьвюх краін Кэры і Лаўроў сустрэнуцца, каб абмеркаваць далейшыя дзеяньні, інфармуе Белы дом.

Прэзыдэнт Абама зьвярнуў увагу свайго суразмоўцы, што ўрад Украіны захоўвае стрыманы падыход да крызісу і прасоўваецца па шляху канстытуцыйнай рэформы і дэмакратычных выбараў. Абама заклікаў Расею падтрымаць гэты працэс і пазьбягаць далейшых правакацыяў, уключаючы нарошчванне ваеннай сілы на межах з Украінай.

Прэзыдэнт ЗША заявіў прэзыдэнту Расеі, што ЗША працягваюць выступаць на карысьць дыпляматычнага вырашэньня крызісу ў цесным узаемадзеяньні з урадам Украіны і падтрымлівае ўкраінскі народ з мэтай разрадзіць крызіс. Прэзыдэнт Абама даў ясна зразумець, што гэта будзе магчымым толькі тады, калі Расея адвядзе свае войскі і ня будзе рабіць далейшых крокаў па парушэньні тэрытарыяльнай цэласнасьці і сувэрэнітэту Украіны. Амэрыканскі лідэр паўтарыў, што ЗША рашуча выступаюць супраць дзеяньняў, ужо прынятых Расеяй па парушэньні сувэрэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасьці Украіны.

Паводле паведамлення прэс-службы Крамля, прэзыдэнт Расеі падчас тэлефоннай размовы прыцягнуў увагу прэзыдэнта ЗША да «працяглага разгулу экстрэмістаў, якія беспакарана зьдзяйсьняюць акты запалохваньня ў дачыненьні да мірных жыхароў, уладных структураў, органаў правапарадку ў розных рэгіёнах і ў Кіеве». У гэтым кантэксьце расейскі кіраўнік прапанаваў разгледзець магчымыя крокі міжнароднай супольнасьці па садзейнічаньні стабілізацыі становішча, інфармуе Крэмль.

**"Радыё Свабода"**

БЕЛАРУСЬ - ЕС

# ДАЧЫНЕНЬНІ «ЗАСТАЮЦЦА ЖУДАСНЫМІ»

**Эўрапейская камісія сёньня прэзэнтуе справаздачу аб прагрэсе паасобных краінаў у рамках праграмы «Ўсходняга партнэрства».**

У справаздачы разглядаюцца дасягненьні шасьці краінаў-суседзяў Эўразьвязу — Арменіі, Азэрбайджану, Беларусі, Грузіі, Малдовы і Украіны — а таксама адзначаюцца сфэры, дзе патрабуецца паляпшэньне.

Дакумэнт прапануе ідэі для далейшых крокаў Эўрапейскай камісіі і мае дапамагчы пры разьмеркаваньні 15,4 мільярдаў эўра, якія Эўразьвяз зьбіраецца патраціць у праграмах усходняга і паўднёвага суседства ў наступныя сем гадоў.

У лютым краіны Эўразьвязу абмеркавалі гэтак званы «Эўрапейскі пакет» заахвочваньняў для згаданых шасьці краінаў, якія выходзяць за рамкі цяперашніх стымулаў, акрэсьленых у Пагадненьнях аб асацыяцыі.

Грузія і Малдова распачалі працэс падрыхтоўкі да падпісаньня пагадненьняў на саміце ў Вільні летась у лістападзе і маглі б падпісаць іх яшчэ сёлета.

У разьдзеле справаздачы, прысьвечаным Беларусі, паведамляецца што дачыненьні Эўразьвязу зь Беларусьсю застаюцца жудаснымі. Да 232 грамадзянаў Беларусі надалей ужываюцца візавыя забароны і замарожаньне рахункаў. У дакумэнце адзначаецца, што эўразьвязаўская дапамога Беларусі абмежаваная ў аб'ёме і засяроджваецца «прама або ўскосна на падтрымцы патрэбаў насельніцтва і дэмакратызацыі».

ЭЗ адзначае, што агульная рэпрэсіўная палітыка ў краіне працягвалася і на працягу мінулага году, што ўлучае ісаваньне палітычных зьняволеных, запалохваньне прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасьці, дробнае цкаваньне, звальненьне з працы, забарону на выезд з краіны для некаторых грамадзянаў, штрафаваньне актывістаў і зьняволеньне іх на кароткія і сярэднія тэрміны.

Брусэль, аднак, прызнае, што назіраюцца і пазытыўныя зрухі ў «супрацоўніцтве Беларусі зь міжнароднай супольнасьцю па асобных праблемах, а менавіта ў справе сьмяротнага пакараньня і вышэйшай адукацыі». Эўразьвяз таксама распачаў на пачатку гэтага году перамовы зь Беларусьсю наконт спрашчэньня візавага рэжыму.

**Радыё "Свабода"**

АНЕКДОТ

Спецыяльная камісія Савета Федэрацыі Расеі вывучае легітымнасьць указа імператара Аляксандра II аб адмене прыгоннага права.

***

Прыезджы пытаецца ў чалавека на Хрышчаціку:
— Скажыце, як трапіць у расійскае консульства?
— Лепш за ўсё гранатамётам.

***

А.Кабаева абурана кажа сяброўцы:
«Слухай, ну што за народ мужыкі. Нічога даверыць нельга. Я ж у Воўкі на 8 сакавіка крэм прасіла, а не Крым! Цяпер баюся нават заікнуцца пра куртку-аляску.

ХАБАРНІЦТВА

# КАНФІСКАВАЛІ МІЛЬЁН ДОЛАРАЎ, ЗАЛАТЫЯ ЗЛІТКІ...

**Ўсім фігурантам крымінальнай справы прад'яўленыя абвінавачванні: службовым асобам - у атрыманні хабараў, прадстаўнікам суб'ектаў гаспадарання - у дачы хабараў.**

У ходзе праведзеных следчых дзеянняў па справе аб хабарніцтве службовых асоб канцэрна «Беллегпрам» канфіскаваныя грашовыя сродкі ў суме больш за 1 мільёна даляраў, залатыя зліткі, два аўтамабілі агульным коштам больш за 130 тысяч долараў, тры кватэры ў горадзе Мінску, мноства дарагой бытавой і аргтэхнікі. Пра гэта паведаміла Юлія Ганчарова, афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта Беларусі.

Прымаюцца ўсебаковыя меры па забеспячэнні кампенсацыі шкоды, нанесенай дзяржаўным інтарэсам, службовымі асобамі канцэрна "Беллегпрам". Праводзіцца работа па накладанню арышту на канфіскаваную маёмасць.

Затрыманы таксама тры хабарадавальніка - кіраўнікі камерцыйных структур, якія ўдзельнічалі ў мадэрнізацыі прадпрыемстваў канцэрна. Прадстаўнікі камерцыйных структур таксама заключаны пад варту.

Ўсім фігурантам крымінальнай справы прад'яўленыя абвінавачванні: службовым асобам - у атрыманні хабараў, прадстаўнікам суб'ектаў гаспадарання - у дачы хабараў.

Як раней паведамлялася, Следчы камітэт пачаў крымінальную справу ў дачыненні да старшыні канцэрна "Беллегпрам" і дырэктара ААТ "Слонімская камвольна - прадзільная фабрыка", якое ўваходзіць у структуру канцэрна.

Затрыманы Міхаіл Сучкоў узначаліў "Беллегпрам" у снежні 2012-га года. Раней ён узначальваў прадпрыемства, якое гучна прагучала ў некалькіх скандалах -- мінскае ААТ "Сукно" . У мінулым годзе прадпрыемства судзілася са сваімі расійскімі мінарытарыямі, а ў снежні мінулага года генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк на нарадзе ў прэзідэнта 10 снежаня раскрыў некаторыя падрабязнасці карупцыйнай справы ў ААТ " Сукно".

Праверка, праведзеная пракуратурай Мінска, ўстанавіла, што двое намеснікаў генеральнага дырэктара прадпрыемства - па вытворчасці і па юрыдычных пытаннях і кадрах - былі прынятыя на працу пры наяўнасці непагашаных судзімасцяў.

Слонімская фабрыка ў мінулым годзе згадвалася кіраўніцтвам краіны ў сувязі з планамі сур'ёзнай перабудовы камвольнай вытворчасці. У прыватнасці, як распавядаў год таму першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка, з ААТ "Камволь" у Мінску частка абсталявання вырашылі перанесці ў ААТ "Сукно" і на прадпрыемства ў Слоніме, а вызваленыя плошчы ААТ "Камволь" перадаць у распараджэнне менскіх уладаў. Паводле слоў першага віцэ-прэм'ера, рэалізацыя гэтага праекта абыйдзецца танней, чым поўная мадэрнізацыя ААТ "Камволь". "Такім чынам, мы будзем развіваць магутнасці ААТ "Сукно" і падымаем фабрыку ў Слоніме, якая будзе рабіць пражу для камвольным, гарнітурнай і трыкатажнай прадукцыі", - сказаў Уладзімір Сямашка. Не выключаецца і ўдзел у праекце замежных інвестараў.

"ЦЕНЯВАЯ СХЕМА"

# PORSCHE, BMW X5, BMW X6 І СОТНІ ТЫСЯЧ ДОЛАРАЎ НАЯЎНЫМІ

**Супрацоўнікі КДБ затрымалі арганізатараў «ценявых» схем, якія дапамагалі прадпрыемствам рэальнага сектара эканомікі ўхіляцца ад выплаты падаткаў і збораў, а таксама легалізаваць незаконныя даходы і выводзіць грошы за межы краіны.**

Абарот грашовых сродкаў на замежных рахунках падкантрольных кампаній толькі ў 2013 годзе склаў больш за 50 млрд рублёў, са спасылкай на прэс - службу КДБ паведамляе TUT.BY.

Ўзбуджаная 3 крымінальныя справы па прыкметах складу злачынства, прадугледжанага часткай 2 артыкула 243 (ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў) КК Рэспублікі Беларусь у дачыненні да ўдзельнікаў злачыннай групы, а таксама кіраўніка аднаго з прадпрыемстваў.

- Узначальваемая імі камерцыйная структура асвойвала бюджэтныя грашовыя сродкі, атрыманыя за будаўнічыя работы па капітальным рамонце жылога фонду на аб'ектах ЖРЭА Партызанскага і Ленінскага раёнаў горада Мінска, а таксама за аздабленне фасада шматкватэрнага дома, што будуецца ў горадзе Жодзіна, - паведамляе прэс - служба КДБ.

Затрыманыя змешчаны ў СІЗА. У іх выключаная кампутарная тэхніка, бухгалтарская дакументы, больш за 400 тысяч даляраў наяўных грошай. Акрамя таго накладзены арышт на дарагія аўтамабілі Porsche Cayenne, BMW X5, BMW X6, нерухомасць на агульную суму больш за 1,9 млн даляраў, а таксама грашовыя сродкі ў агульнай суме каля 300 млн рублёў на рахунках лжэпрадпрымальніцкіх структур.

Прызначаная праверка пытанняў фінансавых узаемаадносін прадпрыемстваў рэальнага сектара эканомікі з ілжэпрадпрымальніцкімі структурамі.

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 30.03.2014 у 19.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.